


# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com

✉ P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 11(669)

Лістапад 2021 г.


# Пагроза аўтарытарызму: не адтуль чакаюць

Пад канец прэзыдэнцтва Трампа выйшла незьлічоная колькасьць кнігаў і публікацыяў, дзе выкрываліся, бэсьціліся і асуджаліся дзеяньні 45-га прэзыдэнта ЗША і ягонай адміністрацыі. Адпаведна, падбіраліся кідкія назвы, накшталт, “Аўтарытарны кашмар” (Дын-Алтэмаер), ”Сутоньне дэмакратыі: Спакуса аўтарытарызму” (Эн Эплбаўм), “Фашызм у нашыя часы” (Т. Горэш), “Аб тыраніі” (Т. Снайдар), “Як паміраюць дэмакратыі” (Лявіцкі-Зіблат), “Выжыць у аўтакратыі” (Маша Гесэн) і яшчэ дзясяткі, калі ня сотні, розных публікацыяў, што на ўсе кшталты клянуць Трампа, ягоную адміністрацыю, ягоную палітыку. Часам праз зубы прызнавалася, што, нягледзячы на пэўную хаатычнасьць і непрадказальнасьць асобы самога Дональда Дж. Трампа, яму і ягонай адміністрацыі ўдалося зрабіць досыць шмат: краіна дасягнула рэкордных паказчыкаў у разьвіцьці эканомікі, зарэгістраваная рэкордная працаўладкаванасьць для расавых мяншыняў, адбылася стабілізацыя шэрагу кірункаў зьнешняй палітыкі, узяты курс на спыненьне вайсковага ўдзелу ў канфліктах у Сырыі, Аўганістане, Заходняй Афрыцы. Усталяваны сувэрэнны кантроль на паўднёвай мяжы ЗША. Усё гэта, аднак, перакрывалася няспынным белым шумам бяздоказных заяваў пра карумпаванасьць Трампа, ягоную хлусьлівасьць, цемрашальства, ідыёцкі стыль паводзінаў і ягоныя нягеглыя паведамленьні ў Твітары. Калі гэта са дня ў дзень чуеш з радыё, бачыш у тэлевізіі й на старонках навінаў у сеціве, – дык міжволі пачынаеш ставіць пад пытаньне адэкватнасьць Трампа і слушнасьць курсу ягонай адміністрацыі. І калі мэдыі да нябёсаў усхваляюць пустую “мумію” Байдана, неадэкватнага і нездаровага чалавека, і падносяць гэтага прафэсійнага карумпаванага палітыкана і плягіятара як міратворцу і ратаўніка краіны – гэта мае свае вынікі.

Але пасьля дзіўным чынам аказавецца, што асноўныя закіды – тайная супраца з расейцамі, кантакты з расейскім Альфа-банкам ды іншыя абвінавачаньні так званага расей-гэйту (“Trump-Russia Collusion”) аказаліся фальсыфікатам, вырабам передвыбарчай кампаніі Гіляры Клінтан. А колькі сьлёзаў было праліта адносна мальтрэтаваньня Трампам арганізацыі НАТО. Бо, бач ты, падступны Трамп змушаў партнэраў, самыя заможныя краіны ў сьвеце, аплочваць сваю частку выдаткаў гэтай вайсковай арганізацыі адказнай за бясьпеку і абароненасьць Вольнага Сьвету. І, дарэчы, зьнешняя палітыка была ня ў найгоршым стане, тое самае партнэрства ў НАТО і супраца з Эўразьвязам таксама нікуды ня зьніклі. У рэкордны тэрмін была расрацаваная вакцына супраць карона-вірусу. Цяпер, пасьля ўжо амаль году прэзыдэнцтва Байдана, ганебных уцёкаў з Аўганістану, фактычнай ліквідацыі сувэрэнітэту ЗША над паўднёвай мяжой краіны, хаосу ў рэгуляцыях адносна карона-вірусу – палітыка Трампа выглядае часам не найгорай нават для некаторых лявацкіх мэдыяў. Але дэструкцыйная “прагрэсіўная” ідэалёгія перамагае, нязручныя факты або замоўчваюцца, або трактуюцца тэндэнцыйна і пры адсутнасьці сапраўды незалежных і сапраўды прафэсійных мэдыяў існуючыя мэдыі сталі філіяй дэмпартыі й патапталі ўсю этыку і мараль, якая заўсёды чакалася ад “чацьвертай галіны” ўлады ў Злучаных Штатах.

Дональд Трамп – гэта знаёмы і разам з тым нечаканы і, задавалася б, малаверагодны герой, Тытан і Атлянт, якому ўдалося ня толькі адслужыць свой прэзыдэнцкі тэрмін ва ўмовах татальнага супрацьдзеяньня палітычнага істэблішмэнту абедзьвух партыяў, ад фэдэральных судзьдзяў ды іншых высокіх дзяржчыноўнікаў і да дробных функцыянэраў. Таксама гэта праходзіла пры беспакаральным сабатажы з боку функцыянэраў унутры ўласнай прэзыдэнцкай адміністрацыі. Яму ўдалося і шмат чаго дасягнуць – прызначыць значную колькасьць судзьдзяў з кансэрватыўнымі перакананьнямі на пасады ў Вярхоўным Судзе і на розных іншых узроўнях, падтрымаць патрыятычныя сілы Амэрыкі, паспрабаваць спыніць бесьперашкодны датуль распаўсюд лявацкай дэструктыўнай ідэалёгіі ў сыстэме адукацыі, у войску ды іншых дзяржаўных структурах. Яму хапіла мужнасьці выкрыць тое, што кожны іншы палітык (чытай: палітыкан) да Трампа банальна баяўся ня тое што абмяркоўваць, але чапаць і нават вымаўляць. Трамп публічна выказаў павагу амэрыканскаму нацыянальнаму сьцягу, гімну ды іншым атрыбутам дзяржаўнасьці і сувэрэнітэту над межамі, першынствам Амэрыкі ў сьвеце. Гэта ўсё – сур’ёзныя і непрабачальныя парушэньні лявацкай догмы, што цяпер трыюмфальна крочыць па Амэрыцы, захопліваючы адзін пляцдарм за другім, і хутка не застанецца аніводнай сфэры жыцьця, улучна з прыватнай сфэраю асобы, дзе не выцягнула б свае ўсюдыісныя кіпцюры левараднкальная ідэалёгія.

Але вернемся да кнігаў аб аўтарытарызме Трампа і ягонай пагрозе для дэмакратыі. Гэтыя публікацыі – пэдантычныя і дэталёвыя каталёгі недасканаласьцяў Дональда Трампа. Прагледзеўшы гэтыя опусы, асабіста мне найбольш сур’ёзнай хібай падаецца імкненьне Трампа пазьбягаць кожных крокаў, якія маглі б не спадабацца Пуціну і расейскаму кіраўніцтву і недастатковая падтрымка Ўкраіны ў гэтай сувязі. Таксама засмучае брак сур’ёзнай увагі да праблемаў вакол Беларусі. Але тое, што пералічваецца ў публікацыях пра грахі Трампа, ад ягоных сэксуальных прыгодаў да “браку расавай разнастайнасьці” ў прызначэньнях судзьдзяў і да адмены візыту ў Данію быццам дзеля таго, што Данія адмовілася прадаць Грынляндыю – вы-

працяг на бачыне 2

## Пагроза аўтарытарызму...

*працяг з бачыны 1*

клікае толькі сьмех. І гэта горкі сьмех, бо пагроза для дэмакратыі ў Амэрыцы і высьпяваньне аўтарытарызму сыходзіць акурат з супрацьлеглага боку, з так званых "прагрэсіўных" колаў, ад ідэалягічных канструктаў, выпрацаваных тымі "прагрэсарамі" і стасаваных да абсалютна ўсіх бакоў жыцьця Амэрыкі.

За часы прэзыдэнцтва Трампа завершылася кансалідацыя антыдэмакратычных сілаў, што парадаксальна, вакол партыі, якая амбітна завецца Дэмакратычнай. Пад прэтэкстам змаганьня супраць "аранжавага Гітлера", "расіста і ворага жанчынаў", "ідыёта і клёўна" Дональда Трампа былі патаптаныя прынцыпы законнасьці й падзяленьня ўладаў. Для такой "высокай мэты", як "спыненьне Трампа", палітычны істэблішмэнт, улучна з паасобнымі функцыянэрамі Рэспубліканскай партыі, пайшлі на фальшаваньне вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў 2020 году, памер і ўсе дэталі якіх, напэўна, ніколі ня стануць вядомыя дзеля таго, што тыя выбары былі абвешчаныя "самымі чэснымі й празрыстымі ў гісторыі", і стаўленьне да іх разглядаецца цяпер не як стаўленьне да пэўнага канглямэрату фактаў, а як сымболь веры. Адпаведна, усе тыя, хто выказвае сумлеў у іхных выніках, аўтаматычна залічаюцца ў "нутраныя тэрарысты" і ў "ворагі грамадзтва", і за гэтымі назовамі стаіць не пустая рэторыка, а ФБР і ўся падаўляючая моц дзяржаўнай улады. Усё пра што пазытыўна выказваўся Трамп – ад нацыянальнага сьцягу, асобы Томаса Джэфэрсана і да леку гідрахлёракўіну – аўтаматычна трапляла пад анатэму як рэч расістоўская ці фашыстоўская і/або антычалавечая.

Справа ў тым, што левардыкальная ідэалёгія, што мае на мэце зьнясеньне і замену ўсіх падвалінаў Заходняга грамадзтва як рэчаў "расістоўскіх", "эксплюататарскіх", "сацыяльна-няроўнасных", стала фармавацца і разьвівацца бязь нейкай гіерархіі, як сыстэма мярэжавых гарызантальных узаемадачыненьняў (networks). І таму калі грамадзтва прачнулася да рэальнасьці таго, што ягоныя каштоўнасьці замяшчаюцца нечым зусім іншым, гіерархічная сыстэма існуючых інстытутаў была ня ў стане нешта зрабіць, адэкватна адрэагаваць або нават сфармуляваць праблему. Шмат людзей, хіба большасьць грамадзянаў Амэрыкі, дасюль не разумеюць, што адбылося, і чаму рэчы, што яшчэ некалькі год таму былі часткай амэрыканскай культуры і штодзённага жыцьця (сьцяг Канфэдэрацыі, аладкі Цёткі Джымімы, джэрсы каманды Рэдскінз, фільм "Зьнесеныя ветрам"), цяпер могуць быць падставаю для прысаромленьня ды іншых формаў перасьледу, улучна са звальненьнем з працы. Крок за крокам кожны ўзровень існаваўшай гіерархіі, ад шэраговых функцыянэраў і вышэй, ад адміністратараў унівэрсытэтаў і дэпартамэнтаў ураду ЗША, і да камандваньня арміяй і флётам, захопліваўся прыхільнікамі новай ідэалёгіі, што цяпер умоўна завецца "крытычная тэорыя расы", але насамрэч ёсьць зьвяай значна шырэйшай і глыбейшай за пытаньні расы і "сацыяльнай справядлівасьці".

Цэлая Заходняя цывілізацыя стала брыдкай і непрымальнай для новай сыстэмы мярэжаў, і Трамп стаў для іх пачварным д'ябальскім увасабленьнем гэтай цывілізацыі, супраць якога яны аб'ядналіся й мэтанакіравана, хваля за хваляй, скіроўвалі свае ўдары. Безумоўна, абдымаючы амэрыканскі сьцяг або асуджаючы амэрыканскіх футбольных гульцоў-пратэстоўцаў, што "ўкленчвалі" падчас выкананьня гімну краіны, дзядзька Трамп вантробамі адчуваў той антыцывілізацыйны накат левакоў, часам ня могучы добра выказаць тое або даць карэктную дэфініцыю. Асаблівы гнеў радыкалаў і кансалідацыя розных лявацкіх груповак у барацьбе супраць Трампа выклікалі мужнасьць й прынцыповасьць чалавека, якому, здавалася б, гэтыя якасьці пасавалі найменей. Але ў часы, калі маладушнасьць і баязьлівасьць упраў і прэзыдэнтаў унівэрсытэтаў, галоваў карпарацыяў і кіраўнікоў мэдыйных сродкаў падносілі радыкалам на сподачку адну перамогу за другой, "хціва юрлівец", "крэатура рэаль-тэлевізіі", "беспрынцыповы магнат" стаў тым увасабленьнем амэрыканскага духу змаганьня і пераадоленьня праблемаў, якія так зацята спрабуюць вынішчыць радыкалы, культывуючы групавое мысьленьне і прамываючы мазгі ад малых гадоў праз сыстэму адукацыі.

Уся гэтая гісторыя радыкалізацыі мае для нас, выхадцаў з былых Саветаў і Ўсходняй Эўропы, непрыемнае адчуваньне дэжавю. Мы ўжо былі там, у той утапічнай будучыні, да якой радыкальныя "пераўтваральнікі", "прагрэсары" цягнуць увесь цывілізаваны сьвет. Можна гарантаваць, што ніводнаму грамадзяніну Амэрыкі, ніводнаму іміграну, легальнаму або нелегальнаму, ня будзе падабацца гэная сьветлая будучыня зь яе кшталтам роўнасьці (equity) і ўлучнасьці (inclusivity), якія, па Оруэлу, насамрэч маюць супрацьлеглы сэнс. І сапраўды, цяперашняя сытуацыя мае процьму паралеляў з Расейскай рэвалюцыяй – з катастрофай, якая каштавала поўнага каляпсу цывілізацыі й страты дзясяткаў мільёнаў жыцьцяў, і наступствы якой не пераадоленыя і па сёнешні дзень. І тыя паралелі пачынаюцца з атмасфэры, якая стварылася ў адукаваных колах абедзьвух грамадзтваў на падставе асэнсаваньня хібаў і рэальных або ўяўных несправядлівасьцяў, зь якімі тыя грамадзтвы асацыяваліся.

Радыкалы-народнікі, зь якіх пасьля выйшлі тэрарысты-эсэры і бальшавікі, сталі вынікам прыгону і царскага самаўладзьдзя і спрадукавалі лек, што стаў горшы за самую хваробу. Тыя ж амэрыканскія радыкалы, якія наракаюць на "спадчыну рабаўласьніцтва" і "белы супрэматызм", таксама вынайшлі лек для хваробы, што 150 год як ужо зьнікла, але якую яны ва ўсялякі спосаб ікнуцца рэанімаваць або імітаваць. І ў выпадку, як дойдзе да татальняга стасаваньня гэнага леку, у выглядзе "крытычнай расавай тэорыі " ці якой яшчэ іншай трасцы – вынікі будуць хіба больш катастрафічнымі, чым на землях былой Расейскай імпэрыі, у тым ліку Беларусі. Пасьля каляпсу Заходняй цывілізацыі ня будзе ўжо таго "замежжа" за "жалезнай заслонай", куды можна будзе эміграваць, або перабрацца праз мяжу ўначы, або застацца пасьля гастроляў, як некалі "неввяртанцы", або даплыць, скокнуўшы з савецкага карабля.

Падобнай паралельнай рысай зьяўляецца таксама гістэрыя, якая накручваецца ў часы пэўных прапагандысцкіх кампаніў. Гэта тычыцца, напрыклад, змаганьня Сталіна супраць трацкізму ў канцы 1920-х – пачатку 1930-х гадоў, або часоў Другой сусьветнай вайны, калі кожны, хто не прымаў Саветы і ўсе "пякноты" савецкага канібалізму, аўтаматам залічаліся ў гітлераўцы й фашысты. Наагул, асоба Гітлера застаецца папулярнай фігурай для асацыяваньня з ворагамі таксама і ў сучаснай Амэрыцы. На пачатак 1930-х гадоў усе сапраўдныя ідэёвыя трацкісты ў Саветах былі вынішчаныя або высланыя, і таму цэтлік "трацкіст" сталі клеіць кожнаму, што мог трапіць у поле зроку ГПУ-НКВД, а тэрміны "трацкіст" і "фашыст" сталі узаемна замяняльнымі. Дык вось, паралелямі гістэрыі змаганьня супраць трацкізму і нацызму ў Саветах ёсьць гістэрыя змаганьня зь неіснуючым "расізмам", які, згодна з крэатыўным вынаходніцтвам радыкалаў, дасюль прасякнутыя ўсе поры амэрыканскага грамадзтва. Абпойваньне фантомам "расізму" пачынаецца ў дзіцячым садку і працягваецца затым на працягу ўсяго жыцьцья цяперашняга амэрыканца. Любы чалавек, якой заўгодна расы, трапляе ў "расісты", калі ён адкідае або аспрэчвае дагматы левардыкальнай ідэялёгіі. Дубіна патэнцыйных абвінавачаньняў у "расізме" стала

*заканчэньне на бачыне 3*

## Пагроза аўтарытарызму...

*заканчэньне з бачыны 2*

дзейсным сродкам змушэньня ўсіх і кожнага да падпарадкаваньня і маўклівага пагоджаньня з патрабаваньнямі левакоў. Так як Сталін і савецкая прапаганда надалі трацкістам і немцам якасьць блізкую да канібалаў, нешта па сэнсе падобнае цяпер, праз грамадзкія і дзяржаўныя каналы Амэрыкі, надаецца прадстаўнікам белай расы, гэта значыць – пераважнай большасьці амэрыканцаў, на іхныя ж заплочаныя падаткі.

Шарлятанскія маніпулятыўныя сьцьверджаньні пра "белыя прывілеі", "белую крохкасьць", "белы супрэматызм" актыўна ўжываюцца як інструмэнт захопу ўлады й гамаваньня пратэсту ў тых нешматлікіх абшарах грамадзтва, дзе пратэст яшчэ мажлівы. У атмасфэры гэтай гістэрыі адбываюцца такія рэчы, як прыняцьце кіраваньня натоўпу. Прыкладам можа быць ход судовага працэсу над паліцаем Дэрэкам Шовінам, які спрабаваў затрымаць кар'ернага крымінальніка Джорджа Флойда, а той памёр ад перадозу. Праз год пасьля масавых бунтаў, падпалаў і рабункаў у Мінэапалісе і па ўсёй краіне, якія былі відавочна сплянаваныя і каардынаваныя мярэжнымі сыстэмамі анархістаў ды іншых прадстаўнікоў белага радыкалізаванага студэнцтва й інтэлігенцыі, усе службовыя асобы выказвалі спадзеў, што "вынік суду ня выкліча далейшых непажаданых наступстваў". Каля будынку суду стаялі натоўпы ізноў гатовыя граміць і паліць. Вынік суду ў цяперашніх умовах быў прадказальны: адбылося чалавечае ахвяраданьне. Жыцьцё і свабоду Шовіна прынесьлі на алтар "расавай справядлівасьці". Творы чорнага расіста Ібрама Кенды прымусова вывучаюцца цяпер ня толькі ў школах, але і на марскім флёце ЗША, а старшыня камітэту кіраўнікоў штабоў генэрал Марк Мілі адстойвае ўключэньне "крытычнай расавай тэорыі" ў вучэбную праграму вайсковай акадэміі Ўэст-Пойнт.

Паліцыя стала, бадай, апошняй выспай, якую падпарадкавалі радыкалы. Падчас так званых "пратэстаў" лета 2020 году, калі падчас пагромаў гарэлі гарады і гінулі людзі, мэдыі падкрэсьлена называлі тыя акцыі "мірнымі пратэстамі", а кожны палітык або публічная асоба, рэспубліканцы й дэмакраты, згадваючы пра канец нікчымнага жыцьця крымінальніка Джорджа Флойда, называлі яго "трагічнай гібельлю ад рук паліцыі" яшчэ задоўга да таго, як былі расьсьледваныя ўсе абставіны падзеяў. Калі раней злачынцы бегалі ад паліцыі, цяпер стала наадварот. Этэр напоўніўся гістэрычнымі камланьнямі пра "сыстэмны расізм", "белы супрэматызм", "белыя прывілеі". Аніводнага, бадай, голасу не было чуваць супраць гэтых тэзаў, пра хлусьлівасьць абвінавачваньняў цэлай краіны ў расізме. Нават сярод кансэрватараў, і нават на канале Фокс. Кожны, бадай, ведаў, што ў наступіўшай атмасфэры беспакаральнасьці, дзеяў натоўпу, якія не сустракаюць перашкодаў – ягоны дом можа быць проста спалены і сам ён можа быць лінчаваны – і ніхто ня прыйдзе ратаваць, ніхто не абароніць. Падобны панічны страх людзі мелі за часы Сталіна ў Саветах, калі абсалютна кожны мог стаць ахвярай вар'яцкага бальшавізму проста па "разнарадцы", каб былі выкананыя пляны па расстрэлах.

Пазьней, пасьля фальшаваньня прэзыдэнцкіх выбараў і падзеяў 6 студзеня, калі натоўп пратэстоўцаў, не сустракаючы перашкодаў, зайшоў у будынак Капітолію, і потым збольшага без праблемаў пакінуў той будынак – узровень пагрозаў і маніпуляцыяў павялічыўся. Абсалютна мірны пратэст амэрыканскіх патрыётаў, абураных ігнараваньнем іхных галасоў ды патрабаваньняў аб разглядзе шматлікіх парушэньняў падчас "самых празрыстых" выбараў скончыўся без падпалаў і рабункаў. Але дэмпартыя скарыстала напоўніцу гэты свой шанец. Падзеі 6 студзеня сталі аналягам Карнілаўскага путчу падчас Расейскай рэвалюцыі – яны былі выкарыстаныя як прэтэкст для палітычных маніпуляцыяў і захопу ўлады. Паасобныя палітыкі й камэнтатары паставілі гэтую падзею ў адзін шэраг з тэрарыстычнымі актамі 11 верасьня 2011 году. Былі арыштаныя ўсе асобы, каго змаглі ідэнтыфікаваць па відэазапісах. Далей болей – аказваецца, тэрарыстамі можна абвесьціць бацькоў, якія выступаюць супраць індактрынацыі дзяцей у школах, або людзей, якія адмаўляюцца рабіць прышчэпкі ад каронавірусу.

Дарэчы, справа карона-вірусу сталася яшчэ адной дубінай, якую радыкалы актыўна карыстаюць супраць грамадзкай супольнасьці, перасьледуючы свае мэты кансалідацыі ўлады, абмяжоўваючы правы людзей што да пытаньняў іхнага ўласнага здароўя і незалежных дэцызіяў у сфэры дагляду за сваім здароўем. Пад гістэрычныя заявы пра тое, што невакцынанты шкодзяць грамадзтву і зьяўляюцца шкоднымі элемэнтамі, адбываецца ўварваньне дзяржструктураў у прыватную сфэру грамадзяніна. Што гэта, як не аўтарытарызм, пераходзячы ў таталітарызм? І нават Сталін не дадумаўся да гэтага. Маніпуляцыі з інфармацыяй і мерамі пераадоленьня наступстваў эпідэміі карона-вірусу ў значнай ступені спрычыніліся да ачарненьня прэзыдэнцтва Дональда Трампа і прымусовага ціску на грамадзянаў, каб яны адмовіліся на крысьць дзяржавы ад уласнага вырашэньня праблемаў, зьвязаных з іхным здароўем.

Наступнай дубінай уплыву на грамадства зьяўляецца пытаньне іміграцыі. Трампу закідалася нібыта варожасьць да імігрантаў. Маніпуляцыйныя мэдыі перакруцілі мову, сталі замест "нелегальны замежнік" ужываць роблены тэрмін "недакумэнтаваны імігрант" а пазьней нават проста "мігрант", як бы той пераяжджае сабе, мігруе, проста з Аёвы ў Канзас. Усё гучней галасы пра тое, каб усе "мігранты" ад пачатку атрымлівалі правы галасаваньня на мясцовых выбарах. Неўзабаве пойдуць патрабаваньні і пра выбары на ўзроўні штату, і пра прэзыдэнцкія выбары. Розьніца паміж грамадзянамі ЗША і не-грамадзянамі фактычна заціраецца. Дэмпартыя імкнецца праз дэмаграфічныя зьмены насельніцтва краіны займець мажлівасьць стаць адзінай кіруючай партыяй, назаўсёды стварыць дэ-факто аднапартыйную сыстэму ў краіне. І што гэта, як не аўтарытарызм?

Дарэчы, радыкальная ідэалёгія ўплывае таксама на зьнешнюю палітыку ЗША. Змаганьне зь неіснуючым "расізмам" і падаўленьне апанэнтаў унутры краіны важней цяперашнім гаспадарам амэрыканскай палітыкі за стабільны Аўганістан, за нацыянальную бясьпеку і падтрыманьне статусу ЗША на міжнароднай арэне, так як бальшавікам на перамовах 1918 году ў Берасьці важней было замацавацца пры ўладзе ды ўціскаць "буржуяў", чым бараніць ад немцаў Менск, Магілёў або Рыгу. І апанэнты ЗША – Кітай, Расея, Іран – вельмі добра прачытваюць гэныя тэндэнцыі і дзеюць адпаведным чынам.

Такім чынам мы бачым, што сапраўдная пагроза дэмакратыі йдзе не ад кансэрватыўных сілаў і, канешне, ня йшла ад Трампа. З дакладнасьцю да наадварот яна сыходзіць ад так званых "прагрэсіўных" колаў, дакладней – культур-марксістаў і функцыянэраў дэмпартыі, якія зьяўляюцца "штурмавым атрадам" левардыкальнай ідэалёгіі, якая праз маніпуляцыі й фальшаваньні захапіла давер пэўнай часткі грамадзтва і працягвае сваю дэструкцыйную дзейнасьць супраць падвалінаў, на якіх стаіць пакуль яшчэ наймацнейшая дзяржава ў сьвеце – Злучаныя Штаты Амэрыкі. Спыніць і выкрыць гэтую дэструкцыйную дзейнасьць, працаваць на аднаўленьне сапраўдных прынцыпаў свабоды і дэмакратыі ў Амэрыцы – вось надзённая задача ўсіх, каму неабыякавая будучыня краіны.

***Віталь ЗАЙКА***

# Слоўнік нацыянальнай ідэі

## Г - як граніца

Калі вы думалі, што яны хочуць зьмяніць толькі абстрактныя паняткі, тыя, якія па іх нутранай уласьцівасьці, падлягаюць пэўнай інтэрпрэтацыі, і на гэтым спыняцца, то вы памыляліся. Зьмяніць значэньне словаў свабода, правы, любоў, сям'я, справядлівасьць – гэтага ім недастаткова. Задача зьмяніць усе азначэньні, нават тыя, найбольш, здавалася б, трывалыя і адназначныя. Паглядзіце на слова граніца. Мы думалі, граніца – гэта мяжа, фарпост, рубеж. Мы думалі, мяжа – гэта нешта, што трэба сьцерагчы і абараняць. Ды не. Граніца для іх – гэта пэўная фармальная перашкода, устарэлы перажытак, праз які трэба перайсьці, каб атрымаць новы статус, каб атрымаць новую праўную асабовасьць. Граніца – гэта ня месца, якое трэба абараняць і ўмацоўваць, а калі спатрэбіцца, то страляць на паражэньне (даўней жа так і было, і гэта было нармальна). Цяпер гэта месца, дзе мы павінны дапамагаць, а калі трэба, то ратаваць тых, хто гэтую мяжу зьнішчае. Граніца цяпер месца, дзе мы вітаем гасьцей і гаворым "herzlich willkommen". Вы ж ня думайце, што калі ў кожнай трэцяй песьні пяецца "сьвет без граніц", то гэта паўтараецца проста так, для жарту. Думаю, час ужо зразумець, што ў пэўнай сыстэме нават выпадковасьці ня могуць быць выпадковымі. І ня думайце, што тыя аўтаматы, якія носяць пагранічнікі – гэта ўсур'ёз. Цяпер і ў вайны будзе новая дэфініцыя. Бо зьмяніць трэба асалютна кожнае азначэньне, кожную дэфініцыю. Хто кантралюе мову – той кантралюе рэчаіснасьць.

***Віталь ВОРАНАЎ***




## Запрашаем на прэзэнтацыю

### літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа "БЕЛАРУС" за 2021 год,

якая адбудзецца **11-га сьнежня 2021 году** ў грамадзкай залі сабору Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:

***401 Atlantic Ave***
***Brooklyn, NY 11217***

Пачатак імпрэзы **а 5-й** гадзіне вечара.

**Падтрымайце аўтараў і выдаўцоў сваімі замовамі і зацікаўленасьцю!**

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$18**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**. Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***.

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

Я. Кобак .................60

**Шчыры дзякуй!**

### Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" *Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

А Казімірскі ...............30
Я. Кобак ...................30
Д. Сямёнаў ................30

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich***.